**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 8 (776) 19 лютага 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



*Фота Змітра Лупача.*

## Прамвытворчасць у Беларусі ў студзені зменшылася на 6,2 працэнта

Аб’ём прамысловай вытворчасці ў горназдабыўной, апрацоўчай прамысловасці, у вытворчасці і размеркаванні электраэнергіі, газу і вады ў бягучых цэнах склаў Br53,9 трлн. У горназдабыўной прамысловасці вытворчасць за студзень бягучага года зменшылася на 1,5 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам 2014 года. У апрацоўчай прамысловасці паказчык зменшыўся на 6,6 працэнта. Вытворчасць і размеркаванне электраэнергіі, газу і вады зменшылася на 4,9 працэнта.

У Белстаце прывялі даныя аб вытворчасці асобных відаў прадукцыі ў студзені 2015 года. Натуральнамалочнай прадукцыі (у пераліку на малако) выраблена на 3,2 працэнта больш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, сыроў (акрамя плаўленага сыру) – на 41,8 працэнта.

Калійных угнаенняў за студзень бягучага года выраблена на 35,1 працэнта больш у параўнанні са студзенем 2014 года, дызельнага паліва (уключаючы біядызельнае) – на 8,3 працэнта.

***БелТА***

## “Беларусбанк” аднаўляе выдачу крэдытаў фізічным асобам

**ААТ “ААБ Беларусбанк” аднаўляе выдачу фізічным асобам усіх відаў крэдытаў на ўмовах, вызначаных банкам, а таксама авердрафтных крэдытаў.**

Як паведамляе прэс-служба банка, працэнтныя стаўкі па новазаключаных крэдытных дагаворах на спажывецкія патрэбы з 16 лютага складаюць ад 50% гадавых па крэдытах тэрмінам да года і да 55% гадавых па крэдытах тэрмінам да пяці гадоў.

Працэнтная стаўка па крэдытах на фінансаванне нерухомасці на ўмовах, вызначаных банкам, складае 35% гадавых.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у кантакт-цэнтры ААТ “ААБ Беларусбанк” па тэлефоне 147, а таксама ў любой установе банка.

***Аляксей Арэшка, БелаПАН.***



Падача абвестак па тэлефоне № 166

## Глыбоцкі раён

# Крызіс слязам не верыць

■ Станіслаў Раманчук.

**Эканамічная сітуацыя ў краіне сёлета стала імклівa пагаршацца і толькі на Віцебшчыне ў пачатку лютага 77 прадпрыемстваў і арганізацый не разлічыліся з работнікамі за працу ў снежні мінулага года.**

У ліку іх апынуўся і Глыбоцкі кансервавы завод "Купцовъ", чые магутнасці дазваляюць выпускаць больш 20 мільёнаў умоўных банак смачнай вітаміннай прадукцыі. Адзін з нямногіх у галіне ён да апошняга часу заставаўся на плыву, бо яшчэ больш 10 гадоў назад заняўся вырошчваннем зялёнага гарошка. Завадчане ўбіралі яго галандскім камбайнам, павялічылі пасяўныя плошчы, а на новай венгерскай лініі сталі закатваць "зялёнае зерне" ў бляшанкі. Пазней глыбачане асвоілі і разліў розных сокаў у сучасныя пакеты "тэтра-пак". У перыяд свайго росквіту завод выпускаў ад 60 да 70 найменняў кансерваў з дароў садоў і агародаў. Аднак на біду многім айчынным вытворцам асноўны гандлёвы партнёр Расія павяла сябе па-імперску, стала ваяваць у Данбасе і справакавала не толькі ў сябе, але і ў нас, эканамічны крызіс. Крамлёўскім ястрабам напляваць, за што простыя людзі будуць жыць, аплочваць садзікі, кватрплату, чым увогуле харчавацца. Між тым, абстаноўка на шэрагу прадпрыемстваў рэгіёна яшчэ больш трывожная, чым у "Купцова". У прыватнасці, на Віцебскім ААТ "КІМ" даўгі па зарплаце за тры месяцы і там праблемы цягнуцца ўжо 2 гады. Не лепшая сітуацыя ў абласным цэнтры і на тэлезаводзе "Віцязь", заводзе "Эвістар", фабрыцы "Сцяг індустрыялізацыі", на камбінаце шаўковых тканін.

## Пастаўскі раён

# Не пакінулі ў бядзе

■ Кастусь Александровіч

**Нават у страшным сне яшчэ год назад цяжка было ўявіць, што нашы суседзі ўкраінцы пачнуць перажываць жахі сапраўднай вайны, а Беларусь прыме адтуль больш 50 тысяч вымушаных уцекачоў.**

У адзін Пастаўскі раён прыбылі ўжо каля 80 грамадзян Украіны і ім аказалі дапамогу сацыяльныя работнікі ў размяшчэнні і працаўладкаванні. Праўда, у большасці з гэтых людзей на Пастаўшчыне былі родныя ці сябры, знаёмыя. Маладая ж сям'я з Луганскай вобласці з двума дзецьмі-дашкольнікамі прыехала ў райцэнтр днямі з часовага цэнтра размяшчэння ў Гомелі, выбраўшы ў Інтэрнэце гэта месца выпадкова. Маладыя людзі былі рады, што хоць жывыя засталіся, у адрозненне ад іх поўнасцю разбуранага дома, але тут ніякай радні ў іх не было. З душой, па-чалавечы ўспрыняў іх бяду начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама Пётр Курто і пастараўся дапамагчы. Спачатку ўкраінцаў пасялілі ў адным са свабодных пакояў пансіяната для адзінокіх старых у райцэнтры, абагрэлі, акружылі клопатам і ўвагай. За некалькі дзён удалося знайсці ў адной з гаспадарак раёна свабоднае жыллё і працу па спецыяльнасці. У сельгаспрадпрыемстве "Камайскі" толькі рады, што да іх пераехаў высокакваліфікаваны зваршчык і да таго ж яшчэ і вадзіцель. З цягам часу знойдзецца праца, калі падрасце гадавалая дачка, і яе маме бухгалтару, якая мае яшчэ і спецыяльнасць повара. Дарэчы, і мясцовыя людзі не пакінуць украінцаў у бядзе, бо і раней у розных кутках раёна жыхары раёна ўжо дапамаглі ўцекачам грашыма, рознымі рэчамі і самым неабходным пачаць пасутнасці з нуля новае жыццё на беларускай зямлі.

## Полацкі раён

# Багатыя таксама плачуць

■ Чэслаў Якубовіч.

**У адрозненне ад іншых рэгіёнаў вобласці і краіны, горад Наваполацк адзін з самых багатых у Беларусі дзякуючы свайму НПЗ "Нафтан".**

Яшчэ напрыканцы мінулага года сярэднямесячны заробак гараджан пераваліў за 8 млн. рублёў і на 1,5 мільёна апярэджваў аналагічны рэспубліканскі паказчык. Болей навапалачан зараблялі толькі мінчане, але і ім было далёка да заробкаў нафтанаўцаў. На гэтым прамысловым гіганце, у які ўваходзіць яшчэ і "Палімір", працуе амаль 12 тысяч чалавек і перад навагоднімі святамі яны зараблялі ў сярэднім 13 млн. рублёў за месяц. Такія даходы проста касмічныя для жыхароў глыбінкі, аднак і ў нафтанаўцаў рэальная зарплата летась знізілася, а ў доларавым вымярэнні пасля дэвальвацыі - нават на трэць. Кіраўніцтва "Нафтана" днямі публічна паведаміла, што ў бліжэйшыя мінімум паўгода чакаць павышэння зарплат не варта, бо і для завода наступілі цяжкія часы з-за падзення цэн на нафту і падатковых манеўраў Расіі, з-за чаго кошт сыравіны вырас на 100 долараў за тону. Не ад добрага жыцця НПЗ у пачатку лютага закрыў цяплічную гаспадарку, а раней перадаў апошнія два свае дзіцячыя садкі гораду. Каб застацца на плыву, завадчане пазбаўляюцца ад свайго аздараўленчага лагера, закрываюць неўзабаве магазін "Палімір". Завод вымушаны таксама перадаць гораду 9 сваіх інтэрнатаў, паліклініку, пачаліся перамовы з Полацкім дзяржуніверсітэтам аб перадачы ВНУ двух адміністрацыйна-бытавых карпусоў, бо жыццё прымушае жыць па сродках.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 19.02.15 | | | | Пятніца 20.02.15 | | | | Субота 21.02.15 | | | | Нядзеля 22.02.15 | | | | Пан.23.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +2 | +1 | +1 | -1 | +2 | -1 | -2 | -1 | +2 | +1 | +3 | +1 | +4 | +1 | 0 | -1 | +4 |
| Ціск | 752 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 745 | 744 | 742 | 740 | 739 | 739 | 740 | 741 | 742 | 743 | 740 |
| Вільготнасць | 87 | 100 | 89 | 89 | 88 | 98 | 77 | 82 | 81 | 95 | 79 | 78 | 85 | 98 | 82 | 83 | 79 | 92 | 53 |
| Вецер м/сек | 5 | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 6 | 4 | 5 | 2 | 6 | 5 | 5 | 4 | 7 | 5 | 4 | 3 | 9 |
| | З | З | З | З | З | З | З | Пд-З | З | Пд-З | Пд | Пд | Пд | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд |

# Аб самым надзённым

## Аднабаковая арыентацыя на ўсход толькі паскорыла крызіс беларускай эканомікі

■ Аляксандр Цішкевіч.



**Услед за падзеннем аб'ёмаў беларускага экспарту ідзе далейшае пагаршэнне стану нашай эканомікі, а золатавалютныя рэзервы ўжо менеў 4,8 млрд. долараў пры вялізным знешнім доўгу.І дзяржаўны бюджэт Беларусі сёлета прыйдзецца зноў "рэзаць" па-жывым, скарачаць істотна расходы.**

Апошнім часам стала яшчэ больш зразумела, чаму ва ўсім свеце асабліва не любяць рускіх. Не, сярод нашых усходніх суседзяў нямала жывых шчырых, добрых і адкрытых людзей, аднак у цэлым просты чалавек на бяскрайніх расійскіх прасторах нічога не значыць і не вырашае. Курс гэтай вялізнай ядзернай дзяржавы, аднак параненйшаму беднай і адсталай у тэхналагічным плане, вызначае купка звышбагацеяў, па-сутнасці групка жулікаў і злодзеяў, а таксама генералаў і іншых чыноў у пагонах, якія свае правалы ў эканоміцы сталі замяняць мілітарысцкай рыторыкай і практыкай. Расія, на жаль, пераўтварылася ў агрэсіўную, жорсткую краіну, якая вядзе бесперапынныя войны.

Можна не згаджацца з апошнімі выказваннямі беларускага лідара, але меў А. Лукашэнка рацыю, калі назваў дзеянні крамлёўскіх чыноўнікаў "бязмозглымі" і што там многа "дуракоў". Успомніце, колькі ўжо крывапралітных войнаў вёў Крэмль на працягу апошняга чвэрць стагоддзя. Менавіта рускія ў першую чаргу пралівалі кроў яшчэ за савецкім часам напрыканцы 80-х гадоў у Азербайджане, Сярэдняй Азіі, Літве, Латвіі, потым практычна сцёрлі ў руіны ў выніку двух зацяжных войн сваю мяцежную Чачню. Праліваць вялікую кроў для Пуціна – адзін з любімых заняткаў, што і пацвердзіла 7 гадоў назад кароткая ваенная кампанія ў Грузіі, потым надышла пара анексіі Крыма ( як у свой час Гітлер захапіў Судэты і Аўстрыю), а затым сталі ваяваць рускія ў Данбасе падчас сваіх "водпускаў". Па некаторых дадзеных, страты такіх вось рускіх ваенных на ўкраінскай зямлі перавысілі ўжо лічбу 2-х тысяч чалавек.

Агрэсіўны курс Крамля ўстрывожыў увесь свет і, на шчасце, для нас у гэтых ваенных авантурах у Расіі няма саюзнікаў. Невыпадкова днямі на прадстаўнічай міжнароднай канферэнцыі ў Мюнхене па бяспецы, на якой былі прадстаўлены каля 80 краін свету, галоўнага расійскага дыпламата-ястраба Лаўрова, проста асвісталі і абсмяялі. Цяперашне развіццё падзей паказвае, што без бою Захад і НАТО тэрыторыю шматпакутнай Украіны не здасць, а гэта ад халоднай вайны адзін крок да вялізнай бяды. Адначасова з-за ўведзеных заходніх санкцый і рэзкага падзення сусветных цэн на нафту на Расію абрушыўся сапраўдны крызіс і выявілася ўся слабасць і нават адсталасць яе пераважна сыравіннай эканомікі (нават з Кітаем у рускіх летась таварабарот скараціўся на трэць).

Наша краіна ж са сваёй нерэфармаванай і нярыначнай эканомікай у выніку стала таксама заложнікам сітуацыі, хоць Крэмль пакуль не прэтэндуе на нашу тэрыторыю. Маскоўскім гебісцкім стратэгам неяк бы сваю аперацыю "Наваросія" давесці да канца. Аднак у асобе Расіі мы маем галоўнага гандлёвага партнёра і што з гэтага на практыцы? Адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі летась перавысіла 3,1 млрд. долараў. Услед за Расіяй пачалася вялізная дэвальвацыя грыўны на Украіне, тэнге ў Казахстане, драма ў Арменіі, а пад навагоднія святы абваліўся і наш беларускі рубль. Эканамічнае становішча нават грандаў беларускай эканомікі рэзка пагоршылася.

Перапоўнены склады з гатовай прадукцыяй МАЗа, БелАЗа, МТЗ, "Гомсельмаша", "Белшыны" і многіх іншых буйных вытворцаў, са збытам праблемы і над многімі айчыннымі прадпрыемствамі ў год выбараў навіс прывід масавага беспрацоўя. У суседзяў на расійскіх прасторах акрамя рэзкага росту цэн пачаліся ўжо масавыя скарачэнні персаналу, прастоі. Нават беларускае кіраўніцтва не хавае свайго расчаравання ад нашага ўдзелу ў Мытным саюзе і іншых інтэграцыйных аб'яднаннях з Расіяй, пра што паспеў заявіць новы прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў у падмаскоўных Горках. Услед за падзеннем аб'ёмаў беларускага экспарту ідзе далейшае пагаршэнне стану нашай эканомікі, а золатавалютныя рэзервы ўжо меней 4,8 млрд. долараў пры вялізным знешнім доўгу.

І дзяржаўны бюджэт Беларусі сёлета прыйдзецца зноў "рэзаць" па-жывым, скарачаць істотна расходы. Нагадаем, што яго спачатку рыхтавалі зыходзячы з цаны 100 $ за барэль нафты, потым прынялі з паказчыкам 83 долары за нафту і курсу 43 рублі РФ за долар. Але цэны на нафту падымацца сёлета, відавочна, не будуць, а гэта значыць, што і беларусы атрымаюць меней даходаў ад нафтаперапрацоўкі, аднаго з важнейшых айчынных рэсурсаў паступлення патрэбнай нам валюты. Наша краіна вымушана купляць нафту ў Расіі па спецыяльнай формуле з улікам уведзенага там падатку на здабычу прыродных рэсурсаў.

Мяркуючы па ўсім, нічога добрага гэты год беларусам не прынясе. Рост цэн зноў будзе адчувальным і добра, калі паказчык гадавой інфляцыі спыніцца на ўзроўні 18-20 %. Калі ж прадоўжыцца далейшае падзенне расійскага рубля, то і нашай нацвалюце не паздаровіцца таксама. Увесь свет уздыхне больш свабодна і нам таксама стане лягчэй жыць, толькі калі пачнецца паступова замірэнне ў Данбасе, калі там спыніцца баявыя дзеянні і бакі адвядуць свае цяжкія ўзбраенні. Вось толькі ад нашай краіны мала што залежыць, ці спыніць нарэшце Крэмль сваю бязглуздую "гульню мускуламі", якая яўна зацягнулася.

## Дзень за днём

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі скараціліся яшчэ на 1 мільярд долараў і ўпалі да 4,7 мільярда долараў, знешні доўг вырас да 16,6 % ВУП. Лідары краін "нармандскага фармату" Германіі, Францыі, Украіны і Расіі сустрэліся ў Мінску для спынення вайны ў Данбасе. Міністэрства транспарту Беларусі вырашыла павялічыць штрафы за безбілетны праезд. Асобам да 21 года абмяжуюць продаж алкаголю. Праезд для беларусаў падаражэе ў 2 этапы ў электрычках і прыгарадных цягніках на 70 %, на грамадскім транспарце на 10-16 % ужо ў красавіку. У краіне створаць 9 рэспубліканскіх заказнікаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Са скептыцызмам Дзяржздэпартамент ЗША успрыняў чарговую сустрэчу лідараў Германіі, Францыі і РФ у Маскве па ўрэгуляванні гібрыднай вайны ва Украіне.

**Германія.** Старшыня Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы Вольфганг Ішынгер дапусціў магчымасць паставак сучаснай зброі Украіне, калі Расія прадоўжыць агрэсію ў Данбасе.

**Грузія.** Пасля падпісання расійска-абхазскіх ваенных пагадненняў НАТО пацвердзіла гатоўнасць дапамагчы грузінам у мадэрнізацыі іх арміі, адкрые свой навучальны цэнтр.

**Іарданія.** У адказ на спаленне захопленага баевікамі-ісламістамі іарданскага лётчыка авіяцыя краіны нанесла больш 100 авіяўдараў па іх пазіцыях, павесіла двух тэрарыстаў.

**Украіна.** Вярхоўная Рада пазбавіла беглага В. Януковіча звання пажыццёвага прэзідэнта, Інтэрпол аб'явіў яго ў міжнародны вышук, а Пуцін даў прытулак у Падмаскоўі.

**Латвія.** Спецслужбы краіны пачалі новыя праверкі і вобыскі ў адносінах асоб, якія маюць пэўныя дачыненні з прарасійскімі баевікамі-сепаратыстамі на ўсходзе Украіны.

**Швецыя.** Экс-глава МЗС краіны Карл Більдт заявіў, што вайна з Расіяй, на жаль, магчымая, бо Пуцін рашыўся пайсці вельмі далёка, сітуацыя стала вельмі небяспечнай.

**Польшча.** Замест параду на Чырвонай плошчы ў Маскве прэзідэнт Б. Камароўскі запрасіў кіраўнікоў дзяржаў ЕС сабрацца 8 мая ў Вестэрплатэ, дзе і пачалася ІІ Сусветная вайна.

**Ліберыя.** Ва ўмовах строгай сакрэтнасці ў краіну даставілі для маштабных тэстаў новую вакцыну кампаній GSK і Merck супраць ліхаманкі Эбола, яна забрала тут жыцці 9 тысяч.

**Йемен.** Шыіцкія паўстанцы-хусіты поўнасцю захапілі ўладу ў краіне, распусцілі парламент і сфарміравалі часовы прэзідэнцкі савет з 5 чалавек для кіравання дзяржавай.

**Расія.** Ужо ў сакавіку-красавіку, як пацвердзілі ў Мінэканомразвіцці РФ, рост цэн дасягне 15-17 % у гадавым вымярэнні, цяжкасці адчуюць і партнёры Расіі па ЕАЭС.

**Венесуэла.** Улады краіны пачалі масавыя праверкі і ўзяцце "пад кантроль дзяржавы" супермаркетаў і аптэк, каб неяк спыніць рэзкі рост цэн і востры дэфіцыт тавараў.

**Расія.** Волжскі аўтазавод ВАЗ аб'явіў аб скарачэнні 1900 чалавек, пасля абурэння Пуціна ў рэгіёнах пачалі аднаўляць рух адмененых прыгарадных цягнікоў і электрычак.

**Індыя.** За 16 гадзін аперацыі 20 хірургаў краіны паспяхова перасадзілі абедзве рукі 30-гадоваму мужчыне, якога кінулі пад поезд злачынцы, калі ён заступіўся за жанчыну.

**Расія.** Моцны пажар у бібліятэцы Інстытута навейшай інфармацыі РАН РФ знішчыў каля 3 млн. каштоўных кніг (20 % яе фонду), будынак урад паабяцаў аднавіць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Гендырэктар бізнэс-школы ІПМ П. Данейка папярэдзіў, што цяперашні крызіс будзе самым вострым, краіну чакаюць масавыя звальненні, закрыццё прадпрыемстваў.

**Гродна.** На буйнейшым рынку "Паўднёвы" многія гандляры сталі працаваць толькі па выхадных з-за адсутнасці грошай у пакупнікоў пасля дэвальвацыі нацвалюты.

**Мінск.** Глава ўрада Беларусі А. Кабякоў засумняваўся ў эфектыўнасці працы Еўразійскай эканамічнай камісіі, бо не працуюць заключаныя саюзныя дамоўленасці.

**Ждановічы.** Глава Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі С. Міхалевіч пацвердзіў, што айчынны аўтамабільны бізнэс апынуўся на мяжы выжывання з-за неадэкватных цэн.

**Мінск.** Сацыяльнае напружанне ў грамадстве сёлета, як спрагназаваў палітолаг В. Карбалевіч, будзе ўсё болей узрастаць з-за пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў краіне.

**Магілёў.** Больш тысячы новых таварных вагонаў вытворчасці мясцовага вагонабудаўнічага завода аказаліся непатрэбнымі яго заказчыкам у Расіі, Казахстане.

**Быхаў.** Суд пачаў разгляд справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці і пачатку працэдуры банкруцтва буйнога кансервава-агароднінасушыльнага завода.

**Рэчыца.** На тэрыторыі раёна спецыялісты-геолагі ВА "Беларуснафта" адшукалі новае радовішча якаснай нафты, яе запасы складаюць тут 315 тысяч тон.

**Мінск.** Нават супрацоўнікам УП "Мінскметрабуд" затрымалі заробкі за працу ў снежні, шэраг бударганізацый краіны перайшлі на няпоўны працоўны тыдзень.

**Капыль.** Следства выявіла, што былы старшыня калгаса "Душава" незаконна выманіў у падначаленых з будаўнічай брыгады 44 млн. рублёў хабару, пагражаў не даць працу.

**Мазыр.** Вечарам у памяшканне філіяла банка пранік злачынца з нажом, замкнуў там касіра і збег з месца рабавання разам са скрадзенымі 80 млн. рублёў.

**Баранавічы.** На 9 гадоў накіраваў суд у папраўчую калонію мясцовага 17-гадовага хлопца за захоўванне і незаконны збыт асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў.

**Мінск.** Старшыня праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Чаргінец назваў А. Лукашэнку самым значным мінчанінам у гісторыі горада, бо ён захаваў МТЗ, МАЗ.

**Ліда.** Супраць 34-гадовай жыхаркі раёна распачалі крымінальную справу за прымушэнне 12-гадовай дачкі займацца прастытуцыяй, гора-матулі пагражае за гэта да 10 год турмы.

**Мядзель.** Падманам 59-гадовая лабарант адной са школ раёна завышала для бацькоў кошт школьных абедаў і за адну вучэбную чвэрць прысвоіла сабе амаль 16 мільёнаў рублёў.

# Максімальны перыяд знаходжання на ўліку па беспрацоўі будзе скарочаны з 36 да 12 месяцаў




■Алена Прус, БЕЛТА

**У Беларусі максімальны перыяд знаходжання грамадзян на ўліку ў якасці беспрацоўных плануецца скараціць з 36 да 12 каляндарных месяцаў. Гэтая навацыя нацэлена на прафілактыку сацыяльнага ўтрыманства.**

**Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Токун.**

Паводле яго слоў, дапаўненні і змены, якія прадугледжваецца ўнесці ў закон «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь», накіраваны на павышэнне эфектыўнасці ўключэння ў эканамічную дзейнасць незанятых грамадзян, стварэнне ўмоў для развіцця і падтрымкі высокай матывацыі беспрацоўных да актыўнага пошуку працы, узмацненне адказнасці наймальнікаў і беспрацоўных за выкананне заканадаўства аб занятасці.

Так, праектам закона прадугледжана ўзмацненне адказнасці беспрацоўных за парушэнне заканадаўства аб занятасці, што стане стымулам для іх да больш актыўнага пошуку працы. Акрамя таго, прапануецца ўсталяваць абавязкі беспрацоўнага - самастойна займацца пошукам працы, з'яўляцца на перамовы з наймальнікам па пытанні працаўладкавання на працягу двух працоўных дзён з дня выдачы накіравання, з'яўляцца ў органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароны для атрымання накіравання на працу ці вучобу. «Гэта дазволіць замацаваць сістэму ўзаемаадказнасці службы занятасці, наймальнікаў і беспрацоўных у вырашэнні пытанняў іх працаўладкавання», - адзначыў Алег Токун.

Для стварэння ўмоў, якія дазваляюць павысіць эфектыўнасць уключэння ў эканамічную дзейнасць незанятых грамадзян, прапануецца знізіць да пяці дзён (з двух тыдняў) тэрмін, які абавязвае наймальнікаў пісьмова апавяшчаць органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аб наяўнасці ў іх свабодных працоўных месцаў. Узмоцніцца адказнасць наймальнікаў за парушэнне заканадаўства аб занятасці.

Праектам закона будзе канкрэтызавана паняцце «садзейнічанне ў працаўладкаванні» і ўстаноўлены крытэрыі аказання беспрацоўным такога садзейнічання, піша БЕЛТА.

Нагадаем, раней было вызначана, каго залічаць да дармаедаў, і што такія будуць плаціць штогадовы ўзнос.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Ужо 16 з 21 раёнаў вобласці не змаглі поўнасцю разлічыцца з людзьмі за працу ў снежні, асабліва шмат даўгоў у АПК, зменшыліся і паступленні ў бюджэт вобласці.

**Орша.** З удзелам віцэ-прэм'ера ўрада РБ А. Калініна ў горадзе адбылася калегія Міністэрства транспарту і камунікацый па выніках працы галіны ў 2014 годзе.

**Верхнядзвінск.** Расійскія ветэрынары на граніцы ў Смаленскай вобласці не прапусцілі ў Арлоўскую вобласць партыю з 26 тон сыроў вытворчасці мясцовага масласырзавода.

**Глыбокае.** У канцэртнай зале "Віцебск" яшчэ трое прадстаўнікоў Глыбоччыны сталі лаўрэатамі ганаровага звання "Чалавек года-2014 Віцебшчыны" і грашовых прэмій.

**Докшыцы.** Калектыў Бягомльскага лясгаса ўвайшоў у лік лепшых у Беларусі па выніках знешнеэканамічнай дзейнасці летась і паставіў на экспарт прадукцыі на звыш 3 млн. USD.

**Бешанковічы.** Група вымушаных перасяленцаў з Данбаса пры падтрымцы арганізацыі Чырвонага Крыжа за ваўчары набыла ў "Еўраопце" ў Віцебску прадукты і сродкі гігіены.

**Браслаў.** Напярэдадні ўзнагароджання званнем "Чалавек года Віцебшчыны" раптоўна памёр трактарыст ААТ "Агравідзы" Уладзімір Баган, узнагароду перадалі яго родным.

**Мёры.** Падатковая інспекцыя выставіла прэтэнзіі жыхарцы райцэнтра за незаконны даход у суме 542 млн. рублёў, атрыманы за гандаль праз Інтэрнэт без дзяржрэгістрацыі.

***Жалезнякі.*** На базе былога аднайменнага прафілакторыя РУП "Віцебскэнерга" стварылі пасля рэканструкцыі абласны рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр на 100 ложкаў.

**Мёры.** Рассельгаснагляд дазволіў мясцоваму, Віцебскаму і Аршанскаму мясакамбінатам пастаўкі ў Расію прадукцыі з мяса ялавічыны, але вырабы са свініны пад забаронай.

**Сянно.** Адразу 3 чалавекі загінулі ноччу на аўтадарозе на Віцебск у аграгарадку Ноўка, калі вадзіцель іншамаркі не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з прыдарожным дрэвам.

**Полацк.** Падчас пракладкі газавых камунікацый рабочыя пашкодзілі фундамент старажытнага Барысаглебскага кляштара пабудовы XII стагоддзя.

**Паставы.** Днём у цэнтры горада на нерэгулюемым пешаходным пераездзе жыхар райцэнтра збіў на "Фордзе" сямейную пару, у ДТЗ загінула работніца райбальніцы.

**Наваполацк.** Шэраг вядучых ігракоў ФК "Нафтан" сабраліся ў канцы лютага падаць у суд на клуб за даўгі са жніўня даплат за прафмайстэрства і прэміяльных за вынікі каманды.

**Сянно**. Выхаванка мясцовай СДЮШАР Ірына Крыўко ўслед за серабром у эстафеце ўвайшла ў дзясятку лепшых на этапе Кубку свету па біятлоне ў Нове-Месте (Чэхія).

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Я ўспамінаю іншую



**Я прайшла доўгі шлях, многа чаго чула і шмат чаго пабачыла, і пакуль не выйшла ўсё з памяці, бо ў старых гадах усё забываецца, хачу напісаць пра сваю любімую вёсачку Ласкаўшчыну, дзе я пражыла 68 гадоў, і якая і па сённяшні дзень мне мілая і дарагая,і людзей, сярод якіх я вырасла. Цяпер гэта вёска амаль на спісанні: у ёй пражывае 14 чалавек. Толькі летам ды ўвосень глыбачане едуць за ягадамі на балота. Але я ўспамінаю іншую Ласкаўшчыну…**

**■ Эдуарда Салавей**



## Мінулае вёскі

У вёсцы жылі 160 чалавек. Сем'і былі вялікія, шматдзетныя. А як чыста было ў дварах! Было каму наводзіць парадак. А калі ты не хацеў гэта рабіць, то цябе прымусяць.

Кожны тыдзень з гміны (як цяпер з сельсавета) прыязджаў паліцыянт, правяраў парадак. Няма парадку на двары ці на вуліцы – заплаці штраф, ды і не малы – злоты, а то і два. А злоты ў той час быў дарагі, не тое што цяпер тысяча.

Праз вёску тады тракты не хадзілі, вуліца была роўная, чыстая. Толькі пад вечар на роварах з'язджаліся хлопцы з суседніх вёсак на вечарыну. І не дзіва. Апроч таго, што сваіх дзяўчат-прыгажунь было 14, дык і ласкаўскія музыканты далёка былі чуваць. Гэта Стэфан Масевіч і Пётр Канавальчык, а трэці, бубеншчык, Франак Янцэвіч.

Кожную суботу і нядзелю гучала музыка і ліліся песні. А мы, дзеці, слухалі гэту музыку. А спявалі ў большасці выпадках хлопцы і ўсё ваенныя песні. Мусіць, іх душы прадчувалі сваё няшчасце.

У 1944 годзе ўсе яны пайшлі на вайну, а пасля перамогі вярнуліся не ўсе. 6 хлопцаў злажылі свае маладыя галовы, хто ў Польшчы, хто ў Германіі. У тым ліку і гарманіст Пётр Канавальчык. Не давялося яму абняць свайго дарагога сыночка, які і вырас без бацькі. Колькі гора прынесла людзям гэта вайна! Не хочацца аб ёй нават успамінаць.

У нашай вёсцы дужа вучоных не было, але людзей таленавітых хапала. Была ў вёсцы кузня, і ў ёй працавалі два кавалі, два родныя браты, Салавей Адольф і Салавей Баляслаў. Слыліся на ўсю акругу. Людзі вязлі да іх рамантаваць усё: плугі, бароны і ўсялякую гаспадарчую прыналежнасць. Днямі звінелі молаты ў кузні. Мы часта хадзілі глядзець, як кавалі падковывалі коней. Нам было так цікава глядзець, як да конскага капыта мацавалася падкова.

Яшчэ ў вёсцы былі і два сталяры, таксама родныя браты, Путырскія Аляксандр і Канстанты. І сталяры былі дужа добрыя і вельмі патрэбныя людзям. Але лепшым лічыўся Аляксандр (гэта быў мой тата).

Ён быў майстра на ўсё: і дамы апраўляў, і мэблю ўсякую вырабляў, нават у Ваўкалацкім касцёле алтар зрабіў. Гэты алтар знаходзіцца з правай стараны ад цэнтральнага ўваходу, першы алтар сэрца пана Езуса. Я памятаю, як тата скончыў работу і прыехаў дадому. Ён шмат чаго расказваў, гаварыў, што ў сярэдзіне выпісана таблічка – у каторым годзе роблены, хто быў галоўны фундатар, і які сталяр рабіў. Мне тады было 7 гадоў, але гэта вельмі добра памятаю.

Але сёння я раскажу пра падзеі далекага мінулага.

## Лёс сям'і Грабоўскіх

На пачатку XX стагоддзя ў вёсцы Ласкаўшчына па-суседску жылі двое маладых людзей: Паўліна Салавей і Альбін Янцэвіч. Ды ўсё прыглядаліся адзін да аднаго і не заўважылі, як успыхнула каханне. Доўга не сябравалі, хутка абвянчаліся, а неўзабаве на свет з'явілася дзяўчынка. У Дзеркаўшчыне ў касцёле яе ахрысцілі, далі імя Юзэфа. Бацькі цешыліся з дачушкі і планавалі будучыню.

У той перыяд людзі з Беларусі ездзілі на заробкі ў Амерыку. Заехаўшы, працуе там гады тры – чатыры, вернецца з грашамі, купіць ладны кавалак зямлі і становіцца багатым гаспадаром. Тады так ганарова гучала: тут жыве амерыканец. Рашылі і Альбін з Паўлінай, што трэба з'ездзіць у Амерыку і зарабіць грошай, каб дакупіць да свaей зямлі дабаўку. Так і зрабілі. Альбін у Амерыку паехаў адзін, а Паўліна засталася ў Беларусі чакаць мужа з грашыма.

Малады чалавек хацеў добра зарабляць і ўладкаваўся на завод і адразу застрахаваў свае жыццё. Колькі ён там прабыў, не ведаю, але з Амерыкі прыйшло паведамленне, што Альбін Янцэвіч памёр. Атрымаўшы такую вестку, маладая жонка ад смутку захварэла і ў хуткім часе памерла. Засталася іх Юзэфка круглай сіратой.

Бабуля забрала ўнучку да сябе, хоць у яе была вялікая сям'я, але родная ўнучка не лішняя. Дзяўчынку ўсе любілі і цешыліся з яе, бо была яна такая прыгожанькая, проста заглядзенне. Падрасла, скончыла школу (пачатковую). Тады і размовы не было, каб ехаць у горад вучыцца.

Хлопцы вучыліся за сталяроў, кавалёў, а дзяўчаты ў большасці за швачак. Бабуля праслухала, дзе добрая швачка, і аддала на цэлы год унучку вучыцца. За год дзяўчына навучылася добра шыць, а бабуля купіла швейную нажную машыну. Уся сям'я не магла нарадавацца, што ў Юзэфкі ёсць талент у руках.

А апроч таленту швачкі Бог надзяліў яе незвычайнай прыгажосцю. Пасябравала яна з суседскім хлопцам, прыгожым, разумным, добрым краўцом (гэтым зарабляў грошы), але гэткім жа беззямельным, як і яна. Бабуля заўважыла і стала супраць іх сяброўства. Гаварыла: "Нашто табе ён і ты яму. Яму трэба шукаць такую дзяўчыну, каб пайсці на прымакі, а ты яшчэ зусім маладая. Пабудзеш у дзеўках, можа і табе знойдзецца гаспадарскі сын, у якога будзе кавалак зямлі". Бабуля разважала правільна, але невядома, чым бы скончылася ўсё гэта, калі б не прыйшло паведамленне з Амерыкі.

У ім гаварылася, калі ёсць нашчадкі ў Альбіна Янцэвіча, то ім трэба атрымаць 2000 даляраў, якія перасланыя ў банк у Варшаве. Навіна разляцелася па ўсёй ваколіцы, што Юзэфе ідуць даляры з Амерыкі. На той час гэта былі вялікія грошы.

Ад вёскі Ласкаўшчына за 15 вёрст знаходзіўся панскі двор Каліты. Там жыў асаднік, польскі афіцэр, які атрымаў ад Пілсудскага гэты двор як узнагароду. І быў у яго сын, таксама ваенны. Малады паніч, пачуўшы, што ў Ласкаўшчыне ёсць дзеўка з такімі грашыма, вырашыў паглядзець. Прыехаў неспадзявана, дзяўчына проста спужалася, хто ён такі і што яму трэба. Зарэкамендаваўся: "Зыгмунд Грабоўскі".

А чаго прыехаў, пайшла далей размова. Дзяўчына яму спадабалася, а ён ёй таксама. І як яго было не палюбіць: такі далікатны, прыгожы ды яшчэ і панскі сын. Тут ужо і бабуля была не супраць. Пасля адбылося сватаўство і прыгаварыліся аб вяселлі, якое супала з каталіцкім святам Тройцы, было гэта 1 чэрвеня 1930 года.

Вяселле было гучнае, панаязджала шмат паноў і падпанкаў з яго стараны. Тады было модна хадзіць на вяселле проста паглядзець, а на гэта яшчэ цікавей: сірата выходзіла замуж за панскага сына.

Толькі адзін чалавек не пайшоў глядзець на забавы. Той хлопец, які любіў яе. Горка яму было на душы.

На другі дзень паехалі заканчваць вяселле ў Каліты. Цікава было паглядзець, куды аддалі Юзэфку. І не расчараваліся! Проста ўсё выдатна. Вось як павярнуўся лёс! З беднай сіраты, якую выгадавала бабуля, ператварылася ў пані Грабоўскую.

Пасля вяселля маладыя паехалі ў Варшаву. Там Зыгмусю былі ўсе сцежкі знаёмыя: ён там нарадзіўся і вырас, там вучыўся. Атрымалі грошы і палажылі ў касу Стэфчыка. Вось і пачалося панскае жыццё.

Былі ў іх два парабкі, домработніца, і фурман. У хуткім часе нарадзіліся дзеці: першы хлопчык, а затым дзве дзяўчынкі. Юзэфа, хоць і стала паняй, на бабулю не забывалася. Часта ў летні час прыязджалі на пары коней у прыгожым вазку.

Зыгмунд Грабоўскі не важніўся, што ён пан. Ён любіў вясковых мужыкоў. Як прыедзе, каля іх хаты сабяруцца мужыкі з усёй вёскі, а ён шмат што раскажа,чаго ў вёсцы і не ведалі, і не чулі. Ён быў чалавек адукаваны і шмат чаго ведаў.

У 1939 годзе прыйшлі рускія, і іх панскае жыццё скончылася. У пачатку снежня усю іх сям'ю вывезлі, і да 1940 года ніхто не ведаў, дзе яны і ці жывыя. Толькі ў 40-м годзе прыслалі яны першае пісьмо з Сібіры.

У 1941 годзе пачалася вайна, і зноў ніякіх вестак. Толькі пасля стала вядома, што Зыгмунд Грабоўскі добраахвотнікам пайшоў у армію Андэрса, каб бараніць польскую зямлю, што быў цяжка паранены і кантужаны, але жывы.

Пасля перамогі пачаў шукаць сваю сям'ю, адшукаў у Сібіры і перавёз у Лодзь. Цяжка апісаць, якая гэта была радасць, што Бог даў іх сям'і выжыць і сабрацца ўсім пасля ўсяго перажытага. І пачалося мірнае жыццё.

Дзеці вучыліся, а бацькі працавалі. Юзэфа трымала рэстаран, а Зыгмунд дом адпачынку. Пасля вайны можна было б і добра пажыць. Дзеці павырасталі і павывучваліся, дочкі выйшлі замуж. З'явіліся ўнукі. Але ў Зыгмунда было кепскае здароўе, усё вайна выняла. Доўга не пражыў і ў сярэднім веку памёр.

У 1977 годзе яна прыязджала ў Беларусь, захацела паглядзець на родныя мясціны. Нават сустрэлася з тым хлопцам, з якім пачыналася першае каханне. Ён не меў на яе крыўды, а, наадварот, запрасіў да сябе ў госці. І яго жонка была не супраць іх сустрэчы.

Пасля паехала Юзэфа ў Каліты, дзе яна 9 гадоў была паняй Грабоўскай, але ў вайну карнікі спалілі гэту вёску, і там засталіся толькі падмуркі ад пабудоў ды вялікія ліпы, што раслі ў панскай алеі. Пагасціла і ў нас цэлы тыдзень.

Пасля шмат гадоў мы з ёй перапісваліся. Яна пісала пра сваіх дзяцей і ўнукаў. Сын яе Генюсь Грабоўскі працаваў інжынерам у Варшаве, старэйшая дачка Геня мае сына Петруся, а малодшая Марыся мае трох дачушак Эвуню, Моніку і Мар'елю. Дочкі жылі ў Лодзі.

У 1993 годзе наша перапіска абарвалася, можа ад таго, што ў нас вялікая розніца ва ўзросце. Я нарадзілася 1 чэрвеня 1930 года ў дзень яе вяселля.

Як скончылася яе зямное жыццё, я не ведаю, але пра яе можна было б напісаць захапляльны раман. Пачыналася жыццё ў цiхай невялікай вёсачцы Ласкаўшчына, прыйшлося пажыць і паняй Грабоўскай у двары Каліты, і на Сібіры 6 гадоў, а потым у польскім горадзе Лодзь.

## Зімовыя вечары

Мне цяпер часта прыходзіць на памяць даўняе, перажытае, як жылі мае бацькі і як яны зімой праводзілі доўгія вечары. У той час не было ні радыё, ні тэлевізара, і мае бацькі не бадзяліся па сяле, а працавалі дома і расказвалі адзін аднаму розныя гісторыі з жыцця знаёмых і незнаёмых людзей. Тата абшываў валёнкі ці нешта майстраваў, а найбольш трэба было рыхтаваць конскую збрую.

У той час у кожнага гаспадара быў конь, і на каня трэба было мець усё неабходнае. Тата вечарамі віў вяроўкі драўлянымі кручкамі, а з гэ-



Сучасны ласкаўскі краявід.

# Ласкаўшчыну...

тых вяровак рабіў пастронкі да арымага хамута і лейцы. Наступіць вясна – трэба выехаць у поле. Значыць трэба, каб усё было моцнае. Найбольш стараўся звіць з пянькі моцныя лейцы.

У нас быў конь прыгожы буланы, мы яго вельмі любілі, але быў надзвычай пужлівы. Калі запрог, то трэба адразу зацугляць. Значыць і лейцы павінны быць што трэба.

Конскую збрую кожны гаспадар рыхтаваў сам: рымараў у вёсцы не было, таму трэба было мець матэрыял, з якога выраблялася збруя. А матэрыялам былі каноплі, якія людзі тады сеялі ў сваіх агародах, і ніхто не забараняў, бо ніхто не чуў і не ведаў пра наркаманію. І мак тады цвіў у кожным агародзе, як упрыгожанне. І ніхто ніякіх наркотыкаў не вырабляў, відаць, не ўмелі, былі малавучоныя. А цяпер маладыя бяздумна калечаць сябе наркотыкамі.

Каноплі выраслі добра. Пад восень іх зрывалі. З насення рабілі вельмі смачны алей, памятаю і я яго ела. А трасту вязалі ў пучкі і апускалі ў сажалку, у ваду, на два, а мо і на тры тыдні, потым выцягвалі з вады і сушылі. Потым у мялцы мялі і атрымоўвалася валакно, такое бліскучае і моцнае, называлася пянька. З гэтай пянькі і вілі ўсё неабходнае для конскай збруі.

Я памятаю, як тата, робячы збрую, расказваў пра сваю маладосць, як працаваў у Петраградзе на цукровым заводзе, як ён любіў жыць у горадзе. Успамінаў ваенныя гады, як прыходзілася пры цару быць на вайне, прыходзілася быць на Украіне ў Валынскай і Падольскай губернях, якія там вялікія вёскі па 200, а то і болей дамоў. І не толькі тата расказваў пра ваенныя гады.

Расказвала і мама, як у іхнюю вёску прыязджалі вялікія часці царскай арміі на адпачынак і спыняліся на 2 тыдні, а то і болей. Гаварыла, што рускія салдаты хараша спявалі, і мама запомніла адну песню ”Волга, Волга, мать родная”.

У мамы быў проста цудоўны голас. Яна часта спявала мне ўсякія песні і гэту, рускую. Мама таксама кожны вечар была занятая. Яна прала кудзелю на калаўроце. Праз усю зіму гэта работа вечарамі і днямі была не толькі ў маёй мамы.

У той час усе вясковыя жанчыны гэтай работай займаліся, а вясной ткалі на кроснах палатно. Тады апраналіся ў большасці ў саматканае адзенне, і было яно прыгожае і на той час моднае. Мама была рукадзельніца. Усё, за што б не ўзялася, добра атрымлівалася. Была добрай ткачыхай: ткала не толькі палотны, але і дываны, і ручнікі. Я і цяпер берагу яе рукадзелле.

Сваю сям’ю абшывала сама, хоць за швачку не вучылася. Толькі суботнімі вечарамі тата не працаваў, а хадзіў да суседзяў вечар правесці, каб пачуць што новае: у той час бывалі розныя здарэнні ў вёсцы і за вёскай. А мы з мамай заставаліся дома, і яна вучыла мяне маліцца Богу.

Памятаю, быў святочны дзень, мае бацькі нічога не рабілі, сядзелі за сталом і вялі размову. Мама пачала расказ пра сваю далёкую радню. Мне тады было гадоў 7, а праз 3 гады мама памерла, калі мне споўнілася 10 гадоў. Я хачу ўспомніць, якой была мама, і не магу, а вось яе расказ запомніла слова ў слова. Цяпер я размяняла дзявяты дзясятак жыцця, вось і хачу напісаць гэты расповяд, можа, унукі прачытаюць.

## Урок ад немцаў

Падзеі адбываліся ў пачатку XX стагоддзя, калі мама была яшчэ маладой дзяўчынай, а яе бацькі жылі ў Станелевічах, у гэтай жа вёсцы жыла і тая радня, пра якую і пойдзе расповяд.

У гэтай радні быў адзін сын, не прыгажун, але няшпэтны, а галоўнае, як на той час, нябедны (у бацькоў была валока* зямлі), а ён адзін сын: не трэба дзяліцца.

Добры быў хлопец, пабожны, у касцёл хадзіў. І даводзіўся майму дзядулю пляменнікам, называў яго дзядзюшкам. Часта прыходзіў да дзядзюшкі пагаварыць па душах, відаць любіў дзядзюшку, што яму ва ўсім прызнаваўся.

Аднаго разу прыйшоў ён да дзядзюшкі і павялі размову. Мой дзядуля гаворыць:

– Пара табе, пляменнік жаніцца. Ужо і гады падышлі, ды ў вас і зямлі многа, глядзі і работніца свая была б. У хлопцах жа не старэць.

– Я ўжо і сам падумляю, але як перабяру мыслямі, няма каля блізу такой дзеўкі, каб мне падыходзіла. Усе дзяўчаты бедныя, а я хачу каб і нябедную і з важнай фаміліі**.

Дзядуля і гаворыць:

– Ну, прыслухайся, можа і знойдзеш такую.

Праз нейкі час прыйшоў пляменнік да дзядзечкі пахваліцца, што знайшоў такую дзяўчыну, як і планаваў, але далёка, аж у Камаях, за Паставамі. Дзядзечка гаворыць:

– Можа там што і добрае, але цяпер пара благая ехаць у сваты: зіму гоніць, пачынаецца паводка. Трэба да лета адлажыць, як туды даехаць.

– Не, дзядзечка, няма як адкладваць, каб хто не перахапіў.

У бліжэйшую суботу і паехалі. Дарога няблізкая, незнаёмая, пакуль даехалі, стала цямнець. Да таго яшчэ ўз’ехалі на нейкі вадаём і праваліліся, ледзь не ўтапіліся. Ледзь выбраўшыся з вады, усе мокрыя, з горам даехалі. Расказалі гаспадарам хто яны і чаго прыехалі. Людзі так добра іх прынялі: павялі ў хату, далі сухое адзенне і бялізну, каб не мерзлі. Напаілі, накармілі.

Вярнуўшыся са сватоў, зноў пляменнік прыйшоў да дзядзечкі, каб расказаць пра прыгоды паездкі, пра прысмакі, якія там былі на стале, пра далікатную сям’ю.



Алтар у ваўкалацкім касцёле, які зрабіў бацька Эдуарды Салавей .

Дзядзечка слухаў, слухаў ды пытаецца:

– Добра, што ўсё спадабалася, а дзеўка ці спадабалася, бо з ёй жыць прыдзецца?”

– Ну, дзеўка так сабе, але жаніцца буду.

Дзядуля гаворыць:

– Гэта няважна, калі не надта спадабалася – прыдзецца прывыкаць.

Вяселле адгулялі, сталі жыць. Стаў пляменнік радзей да дзядзечкі прыхадзіць, а пры сустрэчы гаварыў, што жывецца няважна і што чакае перамены. Ужо і дзеці ў іх нарадзіліся.

Жонка яго не была прыгажуняй, затое была добрай гаспадыняй, разумнай, працавітай.

Відаць, жыццё было не мёд. Кінула яна яго і дзяцей і пайшла, нічога не кажучы. Не ў Камаі да бацькоў, а ў Дунілавічы, каб быць бліжэй да дзяцей. Уладкавалася служанкай у багатага яўрэя.

Застаўшыся з дзецьмі, пляменнік зноў прыйшоў да дзядзечкі на раду. Пабедаваў, што дрэнна жыць без гаспадыні, што дзеці не так накормленыя, што не ўмее ён жаночую работу выконваць. Дзядуля выслухаў, а затым і гаворыць:

– Ідзі дамоў, запрагай каня, едзь у Камаі па жонку. Відаць, ты вінаваты, калі яна пайшла ад цябе, папрасі прабачэння і прывязі дзецям маці і гаспадыню, бо яна патрэбна.

Выслухаў пляменнік параду, а ехаць не хоча. А ў той час у Беларусі былі немцы, гэта быў 1917 год. У мястэчку Дунілавічы знаходзіўся нямецкі гарнізон. А ў камендатуры перакладчыцай была дзяўчына з Камаяў, пляменніца гэтай цёткі, што ў яўрэя служыла. Адна аб адной не ведалі.

Аднаго разу ішла пляменніца вуліцай і ўбачыла, што яе цётка нясе ваду, здзівілася і распытала, як тая тут аказалася. Цётка і расказала пра свае жыццё, і чаму яна тут знаходзіцца. Пляменніца пайшла да каменданта і яму ўсе расказала. А немцы народ строгі.

Камендант загадаў салдатам запрэгчы пару коней у ваенную павозку, падабраў аднаго немца, які ўмеў размаўляць па-польску, дадаў яшчэ чатырох немцаў і цётку. І ўся капэла паехала ў Станелевічы!

Як прыехалі ў двор нечаканыя госці, гаспадар выйшаў з хаты, а той немец, што ўмеў па-польску размаўляць, загаварыў гучным голасам:

– Ойцец, дзецям матку пшывезлі.

Гэты ойцец, як убачыў, што ідзе жонка, упаў перад ёй на калені і стаў рукі цалаваць і прасіць прабачэння. А немцы тым часам патраслі дубінкамі над ім, а можа яшчэ і ўлупілі, бо заслугоўваў. Зачыталі мараль, што трэба жыць добра і дзяцей гадаваць.

Пасля гэтага ўсяго жонка гаварыла, што стаў не чалавекам, а анёлам. Нават калі немцаў прагналі з Беларусі, нічога не змянілася. Добра засвоіў урок.

---

*Валока – мера плошчы, ужывалася ў нашай мясцовасці амаль да сярэдзіны XX стагоддзя, 21,36 га.

**Маецца на ўвазе сям'і, з польскай.



Хата бабы Эдзі ў Ласкаўшчыне.



Такую хату са снегу збудаваў Дзяніс Протас, адзіны ласкаўскі школьнік, які зараз ходзіць у дзясяты клас.

